Жыві, Беларусь!

# Народная газета

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№ 185 (198) 21 верасня 1991 г. Субота.

ВЫДАЕЦЦА З КАСТРЫЧНІКА 1990 ГОДА НА БЕЛАРУСКАЙ І РУСКАЙ МОВАХ.

Кошт: у розніцу — 10 кап. падпісны — 3 кап.

# ЛУНАЕ БЕЛ-ЧЫРВОНА-БЕЛЫ!

На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

## Парламент Беларусі: эвалюцыя працягваецца

**Вось ужо сапраўды шляхі парламенцкія непрадказальныя! Хто б мог прадбачыць, што пасля двух дзён зацятай палемікі з апазіцыяй БНФ абсалютная большасць дэпутатаў на ўсю рэспубліку, на ўвесь свет усклікне: «Жыве Беларусь!»**

Праўда, наконт шчырасці голасу былых прыхільнікаў сацыялістычнага выбару застаюцца пэўныя сумненні. Відавочна, што стаць пад бел-чырвона-белы сцяг і «Пагоню» былую «агрэсіўна - паслухмяную» частку дэпутатаў нашага парламента прымусіў, хутчэй за ўсё, страх перад айчыннай і сусветнай грамадскай думкай. Бо, памяняўшы запэцканую шыльду «БССР» на новую — «Рэспубліка Беларусь», як бы ні хацелася некаторым парламентарыям пастулаца прынцыпамі, давялося прызнаць і спрадвечныя сімвалы беларусаў. Вядома, асабліва цяжка было змірыцца з «бэнэфаўскай» сімволікай дэпутатам - камуністам і ветэранам. Спрабавалі нават разгарнуць навуковую дыскусію. Адразу ж знайшліся і свае вучоныя-лысенкаўцы, што пераконвалі дэпутатаў і народ Беларусі ў няроднасці бел-чырвона-белага сцяга і «Пагоні» беларусам. Зрэшты, здаровая логіка ўсё ж перамагла. Ды і іншага выбару ў Вярхоўнага Савета Беларусі не было — ззаду дэмакратычная Масква, наперадзе — міжнароднае супольніцтва. Пакінуць старыя камуністычныя сімвалы азначала б пасеяць сумненні наконт сур'ёзнасці намеру Беларусі стаць на шляхі дэмакратыі, а потым трапіць у эканамічную і палітычную ізаляцыю. З другога боку, наш парламент паставіў бы ў камічную сітуацыю паўнамоцных прадстаўнікоў рэспублікі за мяжой, у ААН, бо новая назва зусім не стасавалася са старымі сімваламі. Давялося тэрмінова ўносіць папраўкі ў старую Канстытуцыю рэспублікі — адмовіцца ад дакладнага апісання дзяржаўных сімвалаў. І толькі пасля такіх захадаў неабходныя дзве трэці дэпутатаў усё ж уцямілі, што трэба ў рэшце рэшт прымаць разумнае рашэнне. Мікалай Дземянцей, напрыклад, на дзіва для многіх парламентарыяў, публічна прысягнуў на вернасць бел-чырвона - беламу штандару і «Пагоні». Былы Старшыня Вярхоўнага Савета літаральна заявіў: «Я стаю на каленях і цалую гэты герб і сцяг».

Дарэчы, увечары 19 верасня, пасля заканчэння пасяджэння сесіі, дэпутаты, вяртаючыся дадому, пачулі ад людзей на плошчы замест ганебнага «хунта» — «малайцы!»

**Мікола ДЗЯБЕЛА.**

Погляд з балкона і плошчы

## Зажывём па-новаму?

**Пасля гарачых спрэчак, як вядома, парламент прыняў рашэнне аб вяртанні Рэспубліцы Беларусь гістарычнага герба і сцяга. Зразумела, што многія жыхары Беларусі, як, дарэчы, і дэпутаты, неаднолькава ставяцца да прынятага рашэння. Тым не менш яно ёсць. Ёсць і новыя (дакладней, старыя) герб і сцяг.**

Яшчэ ў канцы пасяджэння, на якім прымалася гэтае гістарычнае рашэнне, гаварылася аб неабходнасці правесці змену сцяга над Домам урада і ў зале пасяджэнняў урачыста. Такое ж меркаванне выказаў у чацвер у праграме «Крок» і Старшыня Вярхоўнага Савета БССР Станіслаў Шушкевіч. Аднак у пятніцу, ідучы на сесію, дэпутаты ўбачылі, што сцяг ужо некім заменены.

Народны дэпутат БССР **Сяргей НАВУМЧЫК:**

— Як бы мы ні ставіліся да камуністычных атрыбутаў, але гэта былі дзяржаўныя сімвалы. Шмат дзесяткаў гадоў з гэтымі сімваламі жылі нашы дзяды, бацькі, для іх гэта быў сапраўдны сімвал Беларусі, з ім была звязана пэўная частка нашай гісторыі. Тое, што народу вернута гістарычная атрыбутыка, — гэта абсалютна заканамерна. Але калі мы лічым патрэбным стаць на шлях дэмакратыі (а нам да сапраўднай дэмакратыі, да сапраўднай цывілізацыі яшчэ далёка), то мы павінны, безумоўна, ставіцца з пэўнай павагай і да камуністычных атрыбутаў. Гэта не дробязь — новы дзяржаўны сцяг вывешваць па-змоўніцку ўначы ці позна вечарам. Я ўпэўнены — павінна была быць урачыстая працэдура, як гэта адбылося на Украіне, ды і ў іншых рэспубліках. Той сцяг, пад якім апошні год праходзілі, я лічу, гістарычныя сесіі, і той сцяг, які апошні год развеваўся над Домам урада, — гэта таксама гістарычныя сімвалы, і яны павінны захоўвацца і сто, і дзвесце, і трыста гадоў. У іншым выпадку, я перакананы, што праз пэўны час нашы нашчадкі спытаюцца, дзе яны. Гэта ж гісторыя! Мы сёння стараемся знайсці па крупінках тое, што было ў мінулыя гады. Чаму не думаем пра людзей, якія будуць жыць пасля нас?

Лідэр парламенцкай апазіцыі **Зянон ПАЗЬНЯК** выказаўся больш катэгарычна:

— Я лічу гэты факт прыкрым. Тыя людзі, якія мянялі сцяг, альбо проста па сваёй культуры не дараслі да разумення гэтага акта і павесілі як звычайныя адміністратары, альбо гэта было зроблена спецыяльна, каб сарваць урачыстае падняцце сцяга.

Некаторыя іншыя дэпутаты, да каго мы звярнуліся з просьбай пракаменціраваць гэтую сітуацыю, вырашылі не выказваць сваіх адносін да таго, што адбылося. Старшыня Вярхоўнага Савета БССР Станіслаў Шушкевіч сказаў, што ён сам, даведаўся аб гэтым, толькі прыйшоўшы ў Дом урада...

Факт, сапраўды, прыкры. Асабліва ў тых умовах, калі ёсць мноства людзей, якім жывецца ўсё горш і горш, якія думаюць толькі пра хлеб, пра адзенне, якія не разумеюць і не прымаюць спрэчкі дэпутатаў аб гістарычных сімвалах. У той жа час павінны памятаць і пра іншых людзей, якія прынялі рашэнне Вярхоўнага Савета як доўгачаканае свята. Безумоўна, і на адных і на другіх адаб'ецца тое, як выконвалася рашэнне парламента. Першыя, на іх думку, атрымалі яшчэ адзін доказ, што дэпутаты губляюць час дарэмна. Другія шчыра пакрыўджаны, яшчэ раз пераканаліся, якую цяжкую спадчыну атрымаў новы Старшыня Вярхоўнага Савета.

Але ўсё ж, хто ж замяніў ноччу сцягі? Мы звярнуліся з гэтым пытаннем да начальніка сакратарыята **А. П. АНЦІПЕНКІ:**

— Сцягі заменены не ноччу. Той, што на Доме ўрада — учора ўвечары, а ў зале пасяджэнняў — сёння раніцай. Наконт урачыстасцяў мне ніякіх указанняў не было, старыя сцягі пакуль ляжаць у таварыша, які іх здымаў...

Вось так, паважаныя чытачы, Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка стала Рэспублікай Беларусь, сцягі, якія маюць вялікую гістарычную каштоўнасць, пакуль не зніклі...

Зажывём па-новаму?

**Сяргей ПЛЫТКЕВІЧ,**
**аглядальнік «Народнай газеты».**

# Факты Аргументы Комментарии Суждения

### Контракт — есть контакт

МОГИЛЕВ. **На контрактной основе будет теперь строиться работа горисполкома.**

Такое решение было принято на очередной сессии городского Совета. По мнению депутатов, это позволит освободить аппарат исполкома от балласта и укомплектовать его служащими, которые будут по-настоящему болеть за дело.

### Взорвался реактор

**На гродненском кожзаводе произошла авария.**

Как нам сообщил заместитель руководителя дежурной службы пожаротушения А. Игамбердиев ГУПО МВД Беларуси, вчера без пяти девять утра в помещении химцеха взорвался реактор. В нем приготавливался раствор для отделки кожи. И хотя в «котле варились» серная кислота, патока, хром натриевый, по заверениям специалистов, авария угрозы для экологии не представляет...

Одна кирпичная стена от взрыва рухнула, отвалилось и железобетонное перекрытие. По словам А. Игамбердиева, двое пострадавших находятся в больнице, о судьбе третьего пока еще ничего не известно. Будем надеяться, что он жив.

Причины аварии устанавливаются.

### Вкратце

* Президент Грузии Гамсахурдиа пошел на уступки по отношению к оппозиции. Он заявил, что готов предоставить ей одну из программ республиканского телевидения и начать переговоры. Но оппозиция отвергла подобные «шаги навстречу» и сообщила, что будет добиваться отставки нынешнего президента.

* Бои в Хорватии продолжаются, несмотря на соглашение о прекращении огня, которое было подписано между враждующими сторонами в Югославии.

* Министерство иностранных дел Швейцарии сообщило, что оно рассматривает просьбу СССР о замораживании средств КПСС в этой стране.

* Верховный Совет РСФСР начал обсуждение будущего России.

* Министр финансов США Брейди, выступая после встречи в Москве с Горбачевым, заявил, что Соединенные Штаты отзовутся на все просьбы Советского Союза о срочной продовольственной помощи, которая может понадобиться зимой.

### Выбери меня!

КИШИНЕВ. **8 декабря состоятся первые всенародные выборы президента Молдовы. Решение об этом принял парламент республики.**

Президентом может быть избран только гражданин Молдовы не моложе 35 и не старше 60 лет, постоянно проживающий в республике последние 10 лет, владеющий национальным языком. Выдвижение кандидатов начнется 8 октября.

### В доверии отказано

**Сотрудники редакции информации Белорусского телевидения на собрании трудового коллектива отказали в доверии своему главному редактору В. Н. Душкевичу.**

Причиной такого решения, как говорится в коллективном заявлении, послужило то, что руководство редакции не желает считаться с происшедшими политическими переменами, как и прежде использует авторитарные, застойные методы руководства, свою неподотчетность зрителю и коллективу.

Вотум недоверия был вынесен 24 голосами при одном воздержавшемся.

### Откопали герб

СВЕРДЛОВСК. **С возвращением городу его прежнего имени — Екатеринбург — ему возвращается и герб, учрежденный еще в 1783 году.**

Он представляет собой щит, в верхнем красном поле которого изображен медведь с Библией и крестом на спине, а в нижнем зеленом — рудокопная шахта и плавильная печь.

Это изображение вновь станет официальным гербом — такое решение приняла сессия горсовета.

### Лицо было не узнать. Его растоптали

**Полуторагодовалого ребенка трудно было узнать.**

Молодая мать поехала копать в деревню картошку. Двоих же маленьких детей оставила в своей минской квартире под присмотром двоюродной сестры. Эту картошку она будет проклинать всю жизнь. Но вина в другом.

Восемнадцатилетняя сестра, оставшись на «хате» одна с ребятами, решила устроить вечеринку по-современному. Совместить, так сказать, полезное с приятным. Пригласила коротать скучный осенний вечер своего знакомого паренька, который старше ее на 4 года и недавно вернулся из мест «не столь отдаленных».

Гулянье шумело. Но вдруг выяснилось, что кончилось «горячительное». И сестричка вызвалась сбегать за спиртным.

Подсовевший ее гость остался в квартире один. Услышал крик ребенка. Не отдавая отчета, сперва пытался успокоить малыша, а потом, «разозлившись», стал его бить, малыш заходился немым голосом. И тогда «воспитатель» бросил его на пол и стал бить ногами по голове, топтать. Лицо размозжил до неузнаваемости...

Как нам сообщили, преступник задержан, против него возбуждено уголовное дело.

### Устроились, но...

ГОМЕЛЬ. **Как нам сообщили в городском исполкоме, в заметке «Хорошо устроились» («Н. Г.» за 19 сентября) были допущены неточности.**

Действительно, Валерий Некрашевич ушел из горкома партии в совместное предприятие, но с поста секретаря, а не первого секретаря. Бывшая зав. отделом Елена Леонова уже работает — только в управлении при облисполкоме по разгосударствлению и приватизации.

К сожалению, понадеявшись на информацию нашего коллеги в Гомеле, неверно указали должность Н. Пугачева. — Он — первый секретарь горкома, а не обкома.

Корреспондент, подготовивший эту заметку, строго наказан.

### Есть свои Горбачевы в Париже

**Челябинская область знаменита не только тем, что здесь есть города-тезки — Парижа, Варны, Варшавы и Берлина. Тут, по данным социологов, живут 4 тысячи Горбачевых, из которых 19—Михаилы.**

Здесь же обосновались 45 Ельциных, 200 жителей носят фамилию Пушкин, а один к тому же — Александр Сергеевич. В области—семь Лермонтовых и один—Достоевский.

### Царь-музей

**В старинном сибирском городе Тобольске создается музей семьи последнего русского царя Николая II.**

Здесь царская семья находилась в ссылке. Оттуда она была вывезена в Екатеринбург и расстреляна. Музей будет открыт в церкви, где часто бывал Николай II. Сейчас там ведутся реставрационные работы.

### Спецбригады — на свалку

**В связи с тем, что заводы России и Украины, поставлявшие прежде тару для упаковки яиц, отказались от своих обязательств, на Будо-Кошелевской птицефабрике недавно введена новая должность — по поиску уже использованных, но еще пригодных лотков для упаковки яиц.**

Несколько специальных бригад уже выехали в Москву, Калугу и Винницу, где «исследуют» свалки на задворках местных магазинов. Добыча пока не слишком велика. К тому же подержанная упаковка обходится... в 3—4 раза дороже новой. Но все же выход для спасения хотя бы части продукции найден.

### Редкая рыба теперь доплывет до середины Печоры

КОМИ ССР. **Впервые на реке Печоре разрешен лицензионный лов редких рыб: сига, пеляди, чира, хариуса.**

За отлов семги же придется внести дополнительную плату. В этом году планируется выделить около 5 тысяч лицензий для рыбаков республики и Ямало-Ненецкого округа.




Рисунок Олега ПОПОВА.

### «Ящик» можно поремонтировать. Без рук

**ИЖЕВСК.** Сногсшибательное известие поступило из деревни Какси Сюмесинского района: Аркадий Старков, инвалид с детства, его руки бездействуют,— научился ногами ремонтировать телерадиоаппаратуру, в том числе цветные телевизоры. Не истребимое желание жить полноценно сделало мастера известным на весь район.

### Курите на здоровье

ОСЛО. **Два норвежских изобретателя Свен Кнудсен и Тор Расмуссен зарегистрировали патент на свое новое «открытие» — бездымные сигареты.**

Внешне они ничем не отличаются от обычных, но снабжены специальной капсулой с веществом, полностью поглощающим дым. Потребляя эти сигареты, заядлые курильщики будут получать обычную дозу никотина без риска вызвать протест некурящей публики.

**Выпуск подготовлен по сообщениям Виктора ЛЕЩЕНКО, Сергея РАЧИЛО, Анатолия МАЙСЕНИ, Николая Комлева и агентств «Инфо-нова» и «Урал-акцепт». «Горячий» телефон 32-24-02 работает ежедневно с 9 до 11 часов.**

Памфлет

## НЕ МЕНЯЙТЕ СЕМЕЙНЫЕ ВКЛАДЫШИ!

НУ СТРАНА, ну народ, ну нравы!

Легли спать при плюрализме и гласности, проснулись при военной диктатуре, а через два дня уже замачивали победу демократии по всему фронту.

А сейчас все стремительно и сокрушительно несется вдаль.

Меняется все!

Бывшие твердые большевики срочно меняют дело Ленина-Сталина на работу в кооперативах, акционерных коллективах, совместных предприятиях и Совете Министров БССР.

Бывшие «органы ЦК» готовы отдать руки, ноги и остальные части «тела» любому, у кого бренчат наличные. При этом лозунг: «Пролетарии всех стран, соединяйтесь!» срочно и без доплаты меняется на что-нибудь общечеловеческое, независимое и гордое.

Освобождаются те, кто раньше сидел; садятся и допрашиваются те, кто раньше сажал.

Ранее невыездные выезжают скопом.

Бывшие Большие Начальники меняют большие черные «Волги» на маленькие разноцветные проездные.

Не моргнув глазом, меняются КГБ, МВД, ТВ, МИД, ОМОН и Союз аграрников.

Бывшая заглавная партия поменяла столичную прописку на нормальную конспиративную квартиру.

Майоры мгновенно становятся полковниками, полковники—генералами, генералы — маршалами. Бывшие маршалы исчезают бесследно.

Ежедневно отзываются старые послы, назначаются новые министры.

Сурово меняется руководство ядерными кнопками.

Совсем не узнать памятники и статуи: иных уже нет, а те далече. Выжившие стойко переносят замену пахнущих цветов на дурно пахнущие надписи.

На глазах меняются города: берешь билет до Ленинграда, а приезжаешь в Санкт-Петербург. Вылетаешь в Свердловск, а приземляешься в Екатеринбурге.

Оч-чень изменилось всякое начальство: оно срочно поменяло гнев на милость. Все жалобы населения принимаются и нумеруются с улыбками, объятиями и клятвами.

У народа резко прибавилось гордости, ума, чести и совести. Все захотели стать независимыми и конфедеративными.

Стоявшие перед Центром на коленях решили умереть стоя. Постоянно доносятся крики: «Даешь армию, валюту и кузькину мать!».

Перекраиваются границы, открываются архивы, отпускаются цены.

Мэрии нахально зажимают Советы.

Постоянно не верится глазам: коммунисты плачут, демократы правят бал.

Куда-то исчезает Власть.

Наступил переходный период. Шатания заменились разбродом. Все потекло в разные стороны.

Прорвало терпение.

Рвутся связи.

Не спится...

НО ПРОСНУЛАСЬ — о, чудо — Белая Русь!

Полевел, резко все поняв, правый парламент. Большинство стало меньшинством и наоборот.

Депутаты услышали народ, но народ не понимает, что резко происходит.

Все закрутилось и понеслось! «Погоня» вот-вот догонит и мягко царапнет мечом выдающийся лоб выдающегося вождя.

Красное меняется на бел-чырвона-белае.

Зримо меняется погода. Солнце светит, но не греет.

В Минске буква «и» меняется на букву «е».

По всему городу «стенки» меняются на «мягкие уголки», кровати на холодильники, утюги на пылесосы, 35-й размер на 39-й, сахарные талоны на табачные.

Я меняю четырехкомнатную квартиру в Уручье на такую же где-нибудь в Веснянке, Масюковщине, Кунцевщине и на Западе.

Меняются все!

Меняется все!

Фу-у-у...

НО ЭТО еще не все.

Вчера начат обмен мужчин.

С трудом выдвинувшись утром на работу, я ее заметил сразу. «Меняю семейный вкладыш на японский двухкассетник «Сони», — игриво сообщала запиской на столбе каллиграфически нежная дамская ручка.

«Бедняжка!.. — пожалел я брата по полу. — Дожил, доработался. Запустил святое жизненное дело. Это ж надо — всего за двухкассетник!..»

Ох, неспроста эти женские обмены- перемены! Явно подучились последним временем этому у нас, резво вкинувшихся в мужские политические игры на посвежевшем демократическом воздухе. Меняем все!

Но не слишком ли мы, ребята-демократы, газуем на поворотах? А то во многих эпизодах дело ж с переменами дошло до эффекта мини-юбки: дальше уже некуда.

Я лично тоже за то, чтобы буква «е» стала заглавнее буквы «и». Но нельзя ли подождать с этим делом хотя бы до весны?

Ведь надо ж помнить, что все нынешние перемены совершаются во время, когда на носу уже зима. А народ при этой власти еще никогда вдоволь не ел. И зимой у него имеют обыкновение лопаться трубы и отключаться отопление да горячая вода. А на эти жизненные дела все наши перемены пока влияют незаметно. Гарантий тут никаких.

А что ж будет, если при нашей забывчивости где-нибудь к середине зимы этот свободный ныне народ положит зубы на полку и рявкнет во весь освободившийся ненасытный рот:

— Даешь назад!

Это значит—в октябрь семнадцатого года. А там — рукой подать и до экспроприации банков, национализации свободы и обобществления визиток и семейных вкладышей.

РИСКУЕМ, мужики. Тем более что отдельные гражданочки, как видим, не понимают нашей политической занятости и временных трудностей: закусили губки и уже готовы на обмены. А что же будет дальше при наших ударных темпах перемен?!

В общем, не знаю как вы, а я своей, убегая на очередной политический бой, три розы вчера отжалел. Не дожидаясь 8 Марта. Так, на всякий случай...

И вам советую. А то погонятся они за нашими переменами — кто ж дома останется? Да детей оденет-обует?..

Хотя в душе я, конечно, большой демократ. И поэтому — за ускорение темпов наших ударных перемен.

Так что пусть быстрее меняются флаги, министры, памятники и послы! Пусть созываются новые съезды, сессии и выбираются новые президенты! Да здравствует новая роль профсоюзов!

Даешь ветер перемен и странствий!

Но все это надо делать не спеша. И главное — при наличии таких постоянных и неизменных факторов, как сытый желудок, полный карман, ухоженный дом и не мечтающая ни о каких обменах жена.

Лишь в этом случае откроешь поутру ставни особняка и радостно спросишь супругу, глядя на собственный розарий:

— Как свеж, как приятен воздух свободы и демократических перемен! Не правда ли, дорогая?

— Так точно, дорогой! — ответит она.

И будет права.

**Павел СТАСЕВИЧ.**

